# Падзеі • Здарэнні • Факты • Каментарыі • Весткі

## СВЕТ

### 400 000...

...чалавек будзе налічваць у канцы студзеня амерыканская армія ў Паўднёвым В'етнаме. Ваенны бюджэт ЗША на 1967—68 гады дасягне астранамічнай сумы, амаль 77 мільярдаў долараў. Больш-менш столькі ж, колькі ў часе найбольшых ваенных дзеянняў II сусветнай вайны, калі праціўнікамі ЗША былі магутныя дзяржавы: гітлераўская Германія і Японія.

### КАМУНІСТЫЧНЫ РУХ

У часе Кастрычніцкай рэвалюцыі колькасць камуністаў ацэньвалася на 40 тысяч чалавек. Зараз камуністычны рух у сваіх радах налічвае 50 мільёнаў членаў. Найбольш шматлікім атрадам сусветнага камуністычнага руху з'яўляюцца камуністычныя партыі 14 сацыялістычных краін. Несацыялістычныя краіны налічваюць 7 мільёнаў камуністаў. У гэтых жа краінах дзейнічае 74 камуністычныя партыі: 27 у развітых капіталістычных краінах і 47 у раёнах народнавызваленчага руху. Палова камуністычных партый у несацыялістычных краінах — 37 дзейнічае ў канспірацыі.

### У МАСКВЕ

У 1966 годзе Савецкі Саюз наведала больш 1.700 тысяч асоб з заграніцы. З думкай аб гасцях нядаўна маскоўчы адказвалі на анкету «Што ў нас найпрыгажэйшае?» Першае месца заняў **Крэмль**, а тут Спаская Башня, другое — **Сабор Васілія Блажэннага** на Чырвонай плошчы і трэцяе — **Універсітэт імя Ламаносава на Ленінскіх Гарах**, у якім вучыцца каля 50 тыс. студэнтаў з 92 краін. А далей: палац Піянераў, метро, дзе паязды ходзяць кожныя 2 мінуты, і іншыя.

### ТЭЛЕВІЗІЯ Ў СССР

Новы маскоўскі цэнтр тэлевізіі будзе змяшчацца ў Астанкіна, дзе будуецца 525-метровую тэлевізійную вежу. Будзе гэта найвышэйшы аб'ект на свеце, збудаваны людскімі рукамі.

Пакуль што тэлевізійныя перадачы транслююцца ў Маскве на 3 «каналах». Восенню будзе іх пяць, а адзін з іх будзе перадаваць каляровую тэлевізію.

### У КОНГА

Бельгійская суполка, якая эксплуатавала прыродныя багацці Катангі, перастала дзейнічаць. Уся яе маёмасць перайшла на ўласнасць кангійскай дзяржавы. Сталася гэта 16 студзеня, напярэдадні VI гадавіны замардавання Лумумбы. 17 студзеня ўвесь кангійскі народ адзначаў гадавіну смерці Лумумбы. У чэрвені мінулага года Мабуту прызнаў Лумумбу народным героем. Яго імя носяць гарады, вуліцы і плошчы.

(А.К.)

## БССР

### БРЭЖНЕЎ

Беларускую сталіцу наведаў **Генеральны сакратар ЦК КП Савецкага Саюза**, Леанід Брэжнеў. На Мінскім пероне сустракалі яго партыйныя і дзяржаўныя кіраўнікі Беларускай Рэспублікі на чале з першым сакратаром ЦК КП Беларусі П. Машэравым.

Брэжнеў прабыў у Мінску два дні — 15 і 16 студзеня.

16 студзеня Брэжнеў меў сустрэчу з кіруючымі работнікамі цэнтральнага і абласнога беларускага партыйнага і дзяржаўна-адміністрацыйнага апарата. У той жа дзень адбыўся ў Палацы спорту сход сталічнага партыйнага актыву, на якім меў даклад Л. Брэжнеў. Сход прыняў рэзалюцыю, у якой цалкам адобрыў пастановы апошняга Пленума ЦК КП Савецкага Саюза, між іншымі, пастанову — **«Аб міжнароднай палітыцы СССР і барацьбе КПСС за згуртаванасць камуністычнага руху».**

### ВЫБАРЫ

На Беларусі адбываецца падрыхтоўка да выбараў у Вярхоўны Савет Беларускай ССР і ў абласныя, раённыя, гарадскія, сельскія і пасялковыя Саветы дэпутатаў працоўных Беларускай ССР.

### 25-ГОДДЗЕ

У сувязі з 25-ай гадавінай утварэння ППР апублікавана ў «Советской Белоруссии» выступленне Артура Старэвіча, сакратара ЦК ПАРП.

### ПОМНІК

У Пружанах ля дома № 7 па Сацыялістычнай вуліцы адбыўся ўрачысты мітынг, прысвечаны адкрыццю мемарыяльнай дошкі на былой явачнай кватэры падпольных работнікаў КПЗБ. Тут бывала слаўная Вера Харужая.

У мясцовым парку ўстаноўлена помнік Веры Харужай.

### 15%

На 15 працэнтаў павялічыцца ў гэтым годзе прадукцыя беларускай трыкатажнай прамысловасці.

### ФОТАКОПІІ

Беларуская Акадэмія навук атрымала з Італіі фотакопіі дакументаў з пачатку XVI ст., якія датычаць слаўнага беларускага першадрукара Францішка Скарыны. Ён у той час знаходзіўся ў Падуі.

### «ВАЙНА»...

У кінастудыі «Беларусьфільм» адбываецца падрыхтоўка да здымак фільма «Вайна пад дахамі». Тэма: час мінулай вайны.

Таленавіты беларускі празаік Уладзімір Караткевіч напісаў сцэнарый да фільма «Хрыстос прызямліўся ў Гродне», паводле свайго аднайменнага рамана. Гэты фільм будзе зроблены яшчэ ў гэтым годзе, дзея адбываецца ў XVI ст.

(С.Я.)

## ПОЛЬШЧА

### НАРАДА СТАРШЫНЬ РАДАЎ НАРАДОВЫХ

20—21 студзеня адбылася ў Варшаве нарада старшынь прэзідыўмаў ваяводскіх і павятовых рад нарадовых, прысвечаная заданням радаў у гэтым годзе. У нарадзе прынялі ўдзел члены найвышэйшых партыйных і дзяржаўных улад з Уладзіславам Гамулкаю і Юзэфам Цыранкевічам на чале. З прамоваю на нарадзе выступіў Прэзас Савета Міністраў — Юзэф Цыранкевіч. Асаблівую ўвагу звярнуў ён на метады барацьбы з бюракратыяй у працы радаў. Прамоўца паказаў, што барацьба гэтая не можа адбывацца дарогай пабольшвання колькасці ўказанняў, дырэктываў і распараджэнняў, якіх і так надта многа. Далей Цыранкевіч сканцэнтраваўся на неабходнасці зрэдукавання «лавіны распараджэнняў», колькасці неабходных дадаткаў да індывідуальных заяваў і г.д. На заканчэнне Прэзас Савета міністраў закрануў справу актывізацыі малых гарадоў, а таксама справу далейшага ўмацавання грамадскіх радаў нарадовых, як гаспадароў грамад.

### ВЫСТАЎКА АБ ППР-Ы

У памяшканні Музея гісторыі польскага рэвалюцыйнага руху адкрыта выстаўку прысвечаную 25 гадавіне ўзнікнення ППР. На адкрыццё выстаўкі прыбылі прадстаўнікі партыйных і дзяржаўных улад: Рышард Стшэлецкі, Балеслаў Яшчук, Зэнан Новак і іншыя, а таксама ветэраны польскага рэвалюцыйнага руху: Альфрэд Фідэркевіч, Міхал Роля-Жымерскі, Станіслаў Януш. На выстаўцы зграмаджана арыгінальныя дакументы барацьбы ППР у час гітлераўскай акупацыі і зараз пасля вызвалення за народную ўладу ў Польшчы.

### ІМЯ КРН

17 студзеня, у гадавіну вызвалення Варшавы, адбылася ў сталіцы ўрачыстасць засваення праз школу № 164 імя «Краёвай Рады Нарадовай». Месціцца яна непадалёк ад будынку, дзе адбылося першае пасяджэнне КРН. На ўрачыстасць прыбылі: маршал Польшчы — Мар'ян Спыхальскі і міністр асветы і вышэйшай адукацыі — Генрык Яблонскі.

### ЛІК ЧЛЕНАЎ ЗМВ

Саюз вясковай моладзі (ЗМВ) налічвае ўжо 900 тысяч членаў і дзейнічае ў звыш 60 прац. вёсак. Улады ЗМВ апрацоўваюць планы пашырэння сваёй дзейнасці на вёскі, у якіх няма яшчэ гурткоў гэткай арганізацыі.

### «ЧАЛУЎКА

Кінафабрыка «Чалуўка» зрэалізуе ў гэтым годзе 110 фільмаў, з чаго 60 працэнтаў — гэта фільмы звязаныя з дзейнасцю польскага войска, а таксама дакументы, якія паказваюць збройную барацьбу польскага народа ў час другой сусветнай вайны. Большасць з іх — фільмы кароткаметражныя.

(п)

## ВАЯВОДСТВА

### ГАНАРОВАЕ ЗВАННЕ

21 студзеня г.г. для ПГР-у Гансяроўка ў Алецкім павеце прысвоена ганаровае званне **«Гаспадаркі сацыялістычнай працы»**. Гэты ПГР ад 1961 года не меў ніжэйшага ўраджаю як 16 цэнтнераў з аднаго гектара, а ў 1965—1966 гадах дабіўся ён нават 24,5 цэнтнера з гектара. Высокі тут ураджай бульбы, а надоі малака ад адной каровы перавышаюць 3000 літраў. На працягу апошняй пяцігодкі ПГР Гансяроўка не меў затрат, а ў апошнім годзе яго калектыў дабіўся звыш 600 тысяч зл. прыбытку.

### СЦЯГ ДЛЯ ЗБОВІД

Грамадскасць горада Беластока падарыла беластоцкай гарадской арганізацыі Саюза барацьбітоў за свабоду і дэмакратыю ганаровы сцяг. Урачыстасць па ўручэнню гэтага сцяга адбылася 21-га студзеня. Была яна спалучана з адзначэннем 25 гадавіны ППР. Гэтым чынам грамадскасць горада Беластока высока ацаніла заслугі і актыўнасць членаў гарадской арганізацыі ЗБОВіД.

### В'ЕТНАМСКІМ ШКОЛЬНІКАМ

Гарцэры Беласточчыны некалькі месяцаў праводзілі збор школьных прылад і дапаможнікаў, якія перадалі сваім в'етнамскім сябрам. Супольная вартасць падарункаў склала суму 70 тысяч злотых.

### ПРАБЛЕМЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ МЕНШАСЦЕЙ

Нядаўна на Беласточчыне пабывалі журналісты з многіх раёнаў краіны. Цікавіліся яны праблемамі нацыянальных меншасцей. Пабывалі яны ў Беластоку, Гайнаўцы, у Белавежы, цікавіліся беларускім этнаграфічным музеем, пабудовай крамаў і другімі праявамі грамадскага жыцця беларусаў.

### У ГОНАР 50 ГАДАВІНЫ КАСТРЫЧНІКА

У паветах Беластоцкага ваяводства адбываюцца зараз паветовыя агляды ўдзельнікаў агульнапольскага конкурсу мастацкага чытання вершаў. У сувязі з 50 гадавінай Вялікага Кастрычніка арганізатары конкурсу асаблівую ўвагу звяртаюць на тое, каб яго ўдзельнікі завучвалі творы рускіх і савецкіх паэтаў.

### ПАСТАЎКІ ЛІМОНАЎ І АПЕЛЬСІН

Як паведамляюць гандлёвыя ўстановы, у першым квартале г.г. Беласточчына атрымае шмат лімонаў і апельсін. Лімонаў будзе ўдосталь, а апельсінаў 118 тон.

### КОНКУРС

«Газета Беластоцкая» пры выдатнай падтрымцы Ваяводскага камітэта ПАРП і Прэзідыума ВРН аб'явіла вялікі конкурс - дыскусію пад назвай «Будаўніцтва — стымулам развіцця Беласточчыны». У конкурсе можа прыняць удзел кожны, хто мае нейкія канкрэтныя прапановы адносна паляпшэння стану будаўніцтва на Беласточчыне.

(ВР)




NIEDZIELA 29.I.

11.00 „W świecie sztuki" — cykliczny program Interwizji (Budapeszt); 12.05 Wiad. Dz.; 12.15 Dla młodych widzów: „Gdzie cytryna dojrzewa"; 12.50 „W starym kinie"; 13.50 „Ludzie i zdarzenia" — rep. film.; 14.05 „Przemiany" — magazyn Red. Wiejskiej; 14.30 „Magia" — film („Czarownice"); 14.55 PKF; 15.15 Karnawał w Viareggio; 16.05 „Wizyta starszej pani" — film tv pol. („Wojna domowa"); 16.55 „Sonda" — teleturniej; 17.50 „Miasto Hetmana" — („Piórkiem i węglem"); 18.10 Studio 63: „Krzak dzikiej róży" — poeci Młodej Polski; 19.00 „Pejzaż zimowy" — muzyczny progam rozrywkowy; 19.35 Dobranoc; 19.45 Dz. TV; 20.15 „Przedstawiamy" — piosenka i satyra Jugosławii; 21.05 „Bohaterski Bonifacy" — film fab .fr.; 22.30 Niedziela Sportowa.

PONIEDZIAŁEK 30.I.

16.55 Wiad. dz.; 17.00 Dla dzieci: „Zaczarowany ołówek" — film; 17.10 Dla młodych widzów: „Magiczna pałeczka"; 17.30 „Onega" film radz.; 17.50 Dla młodych widzów: „Choreografia" („Estetyka"); 18.20 „Spacerkiem po kinach"; 18.50 TV Magazyn Postępu Technicznego; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dz. TV; 20.00 „Klęski i nadzieje" — rep. film.; 20.20 Teatr TV: St. Grochowiak — „Chłopcy"; 22.00 „Na półkach księgarskich"; 22.10 „Nad Morawą" — rep. film.; 22.25 Dz. TV.

WTOREK 31.I.

9.55 Dla szkół: (kl. IX) Język polski — Molier „Świętoszek" („Dzieje dramatu"); 10.30 „Próba miłości" — film fab. jugosł.; 11.55 Dla szkół: (kl. V—VI) „Bezinteresowność" („O miejsce wśród ludzi"); 16.25 „Przysposobienie rolnicze"; 17.00 Wiad. dz.; 17.05 Dla młodych widzów: „Młodzi wynalazcy"; 17.20 Dla młodych widzów: „Jak dawniej polowano" („Klub pod Smokiem"); 17.50 Informator handlowy; 18.00 Francuskie melodie rozrywkowe; 18.30 „Kwadrans zagadek"; 18.45 „Nad Odrą i Bałtykiem" — mag.; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dz. TV; 20.00 TV Kurier Warszawski; 20.15 „Próba miłości" — film fab. jugosł.; 21.40 „Dwadzieścia lat UNESCO" — film dok.; 22.10 Dz. TV.

ŚRODA 1.II.

10.00 „Święty" — film tv.; 10.55 Dla szkół: (kl. VIII) Wychowanie obywatelskie — „Polska krajem ludzi kształcących się"; 16.25 „Przypominamy, radzimy"; 16.35 PKF; 16.45 „Pozdrowienia z Moskwy" — film radz.; 16.55 Wiad. dz.; 17.00 Dla dzieci: „Słoń na śniegu" (opowiadania o zwierzętach); 17.20 Dla młodych widzów: Teatr Jednego Aktora — „Oskarżony pies Ober" A. Minkowskiego; 17.35 „Nie tylko dla pań"; 17.55 Magazyn Medyczny; 18.25 „Historia muzyki"; 18.55 „Pod znakiem jakości"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dz. TV; 20.00 „Pod strzechami Żerawna" — film bułg.; 20.15 „Święty" — film tv; 21.05 „Światowid"; 21.35 Sprawozdanie z Mistrzostw Europy w jeździe figurowej na lodzie (jazda parami) (Lubliana); 22.30 Dz. TV.

CZWARTEK 2.II.

9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Historia — „O lepsze jutro"; 11.55 Dla szkół: (kl. VII) Język polski — E. Orzeszkowa „ABC"; 16.15 TV Kurs Rolniczy: „Użytkowanie i pielęgnacja pastwisk"; 16.55 Wiad. dz.; 17.00 Dla dzieci: Kino Ptyś; 17.30 „Na zdrowie"; 18.00 „To co najlepsze"; 18.30 Występ reprezentacyjnego młodzieżowego Zespołu Pieśni i Tańca Ziemi Bydgoskiej; 19.00 „Wojsko śpieszy z pomocą" — rep. film.; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dz. TV; 20.00 „Ranna poczta" — film („Błękitny ekspress"); 20.30 „Refleksje"; 21.00 Sprawozdanie z Mistrzostw Europy w jeździe figurowej na lodzie (jazda indywidualna mężczyzn; 22.30 Dz. TV.

PIĄTEK 3.II.

11.55 Dla szkół: (kl. XI) Propedeutyka filozofii, „Sens życia"; 12.45 Dla szkół: (kl. I) „Szczypie mróz, pada śnieg"; 16.55 Wiad. dz.; 17.00 Dla młodych widzów: „Wyprawy TV Przyjaciół"; 17.30 „Skarb sowy" — film („Tajemnica starego zamku"); 18.05 „Azymut"; 18.30 „Wielokropek"; 18.50 Wszechnica TV; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dz. TV; 20.00 Teatr TV: „Portret" J. P. Gawlik; 21.30 Sprawozdanie z Mistrzostw Europy w jeździe figurowej na lodzie (pary taneczne); 22.30 Dz. TV.

SOBOTA 4.II.

10.55 Dla szkół: (kl. VII) Biologia — „Ryby"; 11.25 „Bill Hickock" — film fab. USA (western); 16.20 Program tygodnia; 16.40 „Wychowanie fizyczne naszych dzieci"; 16.55 Wiad. dz.; 17.00 Dla młodych widzów: „Dla każdego coś miłego"; 17.45 „Spotkania z przyrodą"; 18.10 Tele-Echo; 18.40 „Wesele" — film radz.; 19.00 „W przestworzach czyli ciekawe opowieści lotników"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Monitor; 20.00 „Pegaz"; 20.45 Sprawozdanie z Mistrzostw Europy w jeździe figurowej na lodzie (jazda indyw. kobiet); 22.30 Dz. TV; 22.50 „Bill Hickock" — film fab. USA.




**27 студзеня, пятніца**

16.40 Гутарка з членамі дэлегацыі БССР на XXI сесіі ААН. 17.35 «Справа па абвінавачванню». Прэм'ера тэлевізійнага спектакля. I-я серыя.

**28 студзеня, субота**

15.55 Першынства Еўропы па бегу на каньках. 16.30 «Справа па абвінавачванню». 2-ая серыя. 18.15 Першынства Еўропы па бегу на каньках.

**29 студзеня, нядзеля**

10.35 Літаратурны тэатр. А. Куляшоў. «Цымбалы». 12.55 Першынства Еўропы па бегу на каньках. 14.45 Музычны кіёск. 16.15 Першынства Еўропы па бегу на каньках. 19.00 «Зімовы пейзаж». Музычная перадача з Будапешта. 19.35 фестываль гісторыка-рэвалюцыйных фільмаў. «Таварыш Арсеній».

# Народны артыст СССР



Выступае Дзяржаўная акадэмічная капэла БССР, якой кіруе Рыгор Шырма.

Пісьмы... Дзесяткі, сотні пісем. Адкуль толькі яны не прысланы, Сідней і Парыж, Манрэаль і Варшава, Прага і Лос-Анжэлес, Уладзівасток, Масква, Валгаград, Мурманск, Ленінград, Омск, Вільнюс, Беласток, Рыга, Тбілісі, беларускія гарады і вёскі...

Вось гэтыя — напісаныя рукой вядомага рускага кампазітара Аляксандра Грэчанінава. А тут са словамі прывітання звяртаецца цудоўны спявак Міхась Забэйда-Суміцкі.

Вось у гэтай папцы — пасланні ад выдатных дырыжораў Кошыца і Гайваронскага.

А гэта прыслана было вядомым савецкім пісьменнікам Аляксандрам Фадзеевым. Тут жа захопленыя словы ад Шастаковіча і Хачатур'яна, Мурадэлі і Эрне Сакса, Максіма Танка і Заіра Азгура, ад акадэмікаў, калгаснікаў, будаўнікоў, студэнтаў, воінаў... Ці ж можна пералічыць усе гэтыя пісьмы, якія адрасаваны Рыгору Раманавічу Шырме.



...І зноў творчыя пошукі.

Рыгор Шырма... Чалавек, які прайшоў амаль усю Беларусь у высакародным імкненні пазнаць жыццё народа, душу народа, яго духоўную культуру, чалавек, які прысвяціў усю сваю агромную энергію і творчыя намеры ўзвялічванню народнай песні, як вышэйшага праяўлення сэрца і розуму народа — такі ён, Рыгор Раманавіч Шырма, народны артыст Савецкага Саюза, дэпутат Вярхоўнага Савета БССР, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі рэспублікі.

Рыгор Раманавіч справядлівы ў сваёй творчасці, багаты сэрцам чалавек. Гэта яна — цяга да справядлівасці, агромная мастакоўская сумленнасць памагла Рыгору Раманавічу Шырме стацца нястомным збіральнікам лепшых узораў беларускага музычнага фальклора — творчасці таго народа, якому вякамі ворагі і прыгнятальнікі забаранялі нават «людзьмі звацца». Гэтая справядлівасць штурхала Р. Шырму ў гады, калі Заходняя Беларусь была адарвана ад сваёй савецкай Радзімы, ствараць шматлікія хоры, прапагаваць мастацтва і культуру свайго народа, выдаваць рэвалюцыйныя зборнікі вершаў М. Танка, М. Васілька, Ф. Пестрака, прымаць удзел ва ўтварэнні газеты «Наша воля», змагацца за правы народа. І калі карычневая чума фашызму паправабала знішчыць усё светлае, справядлівае, патушыць сонца над светам — Р. Шырма зноў быў сярод тых, хто сваё мастацтва прыраўняў да штыка. У тлумачэнні песні, якую ён выконваў, гэтая справядлівасць выражана ў бязмежнай любві да народа — стваральніка, у веры ў яго светлыя ідэалы, у сілу мастацтва, ідучага ад сэрца да сэрца, натхняючага на подзвіг у баі і працы. У адносінах з людзьмі ён заўсёды чулы да чалавека, да яго пажаданняў і імкненняў. У Р. Шырмы не было яшчэ такога выпадку, каб яму не хапіла часу для аказання дапамогі людзям, для выканання свайго грамадскага абавязку старшыні праўлення Саюза кампазітараў Беларусі або старшыні праўлення Беларускага таварыства па культурных сувязях з суайчыннікамі за граніцаю.

Але Рыгор Шырма не толькі найбуйнейшы прадстаўнік харавога мастацтва краіны, не толькі вучоны — даследчык і выдатны грамадскі дзеяч. Дык ён жа яшчэ пісьменнік і выхавацца цэлай плеяды выдатных дзеячоў музыкальнай культуры Беларусі, патрабавальны і чулы дарадчык усіх любіцеляў нацыянальнага мастацтва, кіраўнік усемагчымых творчых нарад, журы і гэтак далей. І нідзе няма для яго іншай меркі ў ацэнцы падзей і з'яў, чым народнае шчасце, чым глыбокае справядлівае тлумачэнне жыцця.

Вось чаму палкая мастацкая сумленнасць і надзвычайная ўнутраная скромнасць Р. Шырмы ўжо даўно сталіся афарыстычна зразумелымі, сталіся нормай творчых паводзін для многіх і многіх.

21 студзеня гэтага года Рыгору Раманавічу Шырме споўнілася 75 гадоў. Гэта вялікае свята для ўсіх, хто меў шчасце сустракацца з ім, для ўсіх, каму дарагое мастацтва народа.

**І. Нісневіч**
мастацтвазнавец



Рыгор Шырма (справа) і заслужаны дзеяч мастацтва Е. Глебаў у Саюзе кампазітараў БССР.



Рыгор Шырма са сваім унукам.

Фота Э. Трыгубовіча

**А. Баршчэўскі і В. Швед**

# Дружба і праца

## ХРЭСТАМАТЫЯ ДЛЯ VIII КЛАСА

### НЕ ТАК

Была вясна.

Моцна пахла зямлёю.

Сузон ляжаў у акопах і часта-часта ўспамінаў далёка кінутую хату, дзядзінец, пустуючыя гоні. І чым больш успамінаў аб іх, тым больш ныла сэрца, нязносна падоўгу балела, і ўсё яскравей паўставалі ў памяці вобразы далёкіх няўзораных гоней і змучанай голадам і працай жонкі.

Пахла зямля. Акурат, як у час, калі ідзеш за плугам і яна мяккімі дробнымі кавалачкамі абсыпае ногі. Пах гэты казыча нос, прабіраецца ў самае сэрца і балюча раніць яго. Варочаецца тады Сузон, седзячы ў акопе, плюшчыць вочы і бачыць неўзараныя гоні, раскрыты хлеў, худую жывёлу, а ўсё гэта просіць яго гаспадарскай рукі. Сузон скрыгае зубамі, кладзецца тварам да зямлі і стогне. А зямля пахне ўсё мацней, кліча да сябе.

І не сцярпеў.

Ноччу выпаўз з акопаў, нібы за патрэбай, адышоў у кусты і патайком, паціхеньку пайшоў у тыл. За ноч адышоў вёрст пятнаццаць, а далей, прабіраючыся ад вёскі да вёскі, напаткаў па дарозе часць нейкую, даў пісару ротнаму тры рублі, а той выпісаў Сузону пасведчанне на пабыўку без тэрміну. І тады, ужо не баючыся, ехаў у таварным вагоне аж да свайго павятовага горада.

У вагоне прасторна было, ніхто не перашкаджаў думкам. З вагона відаць было поле, убранае рунню, і аратыя за плугам. Над полем слалася ціхае неба светлае, плылі далёкія хмары кавалкамі, рассыпаліся песні жаўранкаў.

І душа поўнілася спакоем і ўпэўненасцю прыезду, за зямельку вазьмуся, падпраўлю гаспадарку...

Дадому ад станцыі гасцінцам дванаццаць вёрст. Прыйшоў, як сцямнела. У цемры будынкі двара здаліся прыгожымі, цэлымі, форма іх не была парушана; цемра зградзіла дзіркі ў стрэхах, абломы ў кутах згніўшых. Нават хата старая, ад таго, што гарэла на камінку смоль і ад таго, што з радаснай усмешкай стаяла ля стала жонка, не адрываючы ад яго вачэй, і ад таго, што аб калены церліся галоўкамі дзеці, здалася прытульнай, цёплай.

Ноччу сніў акопы і страляніну і цывільнага ў фрэнчы, які ўгаварваў салдат змагацца з немцамі да перамогі, за Часовы ўрад і абяцаў зямлі і волі.

Назаўтра і яшчэ дзён некалькі хадзіў па суседзях, гасцяваў, апавядаў пра фронт і не прыглядаўся асабліва да двара, да гаспадаркі.

А потым бліжэй падышоў да гаспадаркі, прыгледзеўся, абмацаў усе куты. Хата з дзіравай страхой, са згніўшымі шуфлядамі ў вокнах, падлогай, хлявы разбураныя, параскрываныя і пустыя гумно, клець і стопка; паросшы муравой, адзічэўшы дзядзінец і поле зарослае — аблог, — усё гэта неяк сабралася разам, абступіла Сузона, пытала: «Ну, што, як?» — і чакала адказу.

Глыбока, у самым нутры, ціха заныла... Пачалі знікаць мэты, надуманыя ў вагоне.

Спадзяваўся перасіліць гэта.

Дранкай*) заляпіў страху на хаце; накраў у лесе жэрдак і трохі падправіў гумно; пазычыў у суседзяў каня і ўзняў тупым сашнікам аблог; пазычыў жыта на хлеб і адрабляў за яго. А ўсё па-ранейшаму стаяла наўкола яго, падыходзіла ўсё бліжэй і бліжэй і пытала: «Ну, а ўсё ж ткі?»

Мучыла, не давала спакою.

Поле патроху ўзараў, пару гоней засеяў, а на больш не хапіла насення. Там, дзе меркаваў ячмень сеяць, кінуў пад грэчку. Пайшоў пазычаць насення — не пазычылі, і поле зноў пачало зарастаць.

Ужо думалася: «Нічога не выйдзе, не падняцца аднаму на ногі, не так трэба рабіць, не так, па-іншаму». А вечарамі ў хаце, пад ціхія словы жонкі, зноў трохі бадзёрыўся і зноў з'яўлялася жа-



 



## У ВАРШАЎСКІМ АДДЗЕЛЕ БГКТ

У сувязі з традыцыйным Новым годам паводле старога каляндарнага стылю Варшаўскі аддзел БГКТ як штогод арганізаваў для сваіх членаў і сімпатыкаў баль. Прысутнічала на ім звыш 300 асоб — пераважна жыхараў Варшавы.

Як штогод, 15 студзеня ў памяшканні Варшаўскага аддзела БГКТ адбылася навагодняя ёлка. Спалучана яна была з мастацкімі выступленнямі дзяцей, якія чыталі беларускія вершы і спявалі беларускія песні.

На здымку. Наташа Туронак дэкламуе прысутным беларускія вершы.

Фота: Ул. Паўлючук

На здымку: Член Варшаўскага аддзела БГКТ, Юры Туронак у час навагодняга балю ў размове з сяброўкаю.

Фота Ул. Паўлючук



# НАЖОМ (ЛЕКАРСКІМ) ПА СЭРЦЫ

У палаце ляжала васьмёра мужчын. Мужчыны былі розных прафесій і рознай адукацыі. Найбольш адукаваным быў працаўнік пэўнай павятовай рады, найменш — лясны рабочы з-пад Сейнаў. Не ведаў ён ніводнай літары, і, зразумела, не ўмеў ні чытаць, ні пісаць. Мужчыны дзяліліся на дзве групы: на тых, што ўжо былі аперыраваны, і на тых, што на аперацыю чакалі. Апераваныя гаварылі многа, у кожным выпадку значна больш ад тых, якія яшчэ чакалі. Гаварылі не без зазнайства, каларытна апісвалі свае перажыванні, раілі і пацяшалі. Тыя, хто чакаў, перад усім слухалі. Размаўлялі таксама, але значна менш. Вісела над імі здань набліжаючайся нямілай падзеі іх жыцця.

Чаго толькі не ператалкавалі паміж сабою гэтыя васьмёра мужчын у час сваёй шматтыднёвай пабыўкі ў палаце Хірургічнай клінікі беластоцкай бальніцы! Успаміны былога, сямейныя канфлікты, вялікая палітыка і сусветныя праблемы. Над усім аднак дамінавала адна тэма: сучасная медыцына, яе стан, яе магчымасці і немагчымасці. Цікавіліся гэтым усе: і працаўнік павятовай рады, і лясны рабочы з-пад Сейнаў, і сапожнік з Гайнаўкі. Усе на свой спосаб зналіся на медыцыне.

Побач мяне ляжаў сябра ва ўзросце каля сарака гадоў. Мужчына, здавалася б, здаравенны ды чырвоны, як бурак. Уласціва «ляжаў» — акрэсленне неадпаведнае. Сябра мой мала ляжаў. Сябра бегаў па доўгіх калідорах аграмаднай бальніцы, жартаваў з дзяўчатамі, гуляў у карты. Пад гэтай бадзёрасцю і жвавасцю, пад прывідам актыўнасці і віталістычнай сілы крыўся, аднак, пякучы яд — хворае сэрца, зародыш немінучай смерці.

Над хваробай майго сябра і перспектывамі яе лячэння дыскутавалі мы доўга і зацята. Дыскутавалі, відаць, і лекары, бо сябра праляжаў шмат месяцаў на хірургічным аддзяленні клінікі, пакуль вырашана было рабіць аперацыю сэрца.

Аперацыя сэрца — гэтага матора чалавечага арганізма! Уяўленне падказвае патрасаючы вобраз: адкрытае жывое сэрца, жывога чалавека, над якім павіс бліскучы нож хірурга. На хірургічным аддзяленні беластоцкай клінічнай бальніцы — аперацыі сэрца не навіна. Адбываецца іх тут штомесяц некалькі. Загадчык клінікі і спецыяліст ад гэтых аперацый дацэнт Адамскі з'яўляецца цудатворцам, які вяртае спраўнасць арганізма ў самым яго цэнтры — сэрцы.

Асаблівай, аднак, сенсацыяй хірургічнай клінікі з'яўляюцца своеасаблівыя механічныя сэрцы званыя тут «разрушнікамі», якія ўстаўляюцца ў грудзі пацыента, для падтрымкі натуральнага сэрца аслабленага і хворага. «Разрушнікі», як і ўсе механічныя рухавікі, патрабуюць для сваёй дзейнасці энергіі, і таму зашываецца іх у грудзях хворага разам з электрычнымі батарэйкамі, ток якіх дапамагае сэрцу перапампоўваць кроў у арганізме. Пацыенты пасля такой аперацыі чуюцца добра, хаця крыху дзіўна, адчуваючы лапатанне гэтага амаль у даслоўным сэнсе «жалезнага» сэрца. Пасля аперацыі мой сябра не вярнуўся на ложак побач мяне. Адвезлі яго, як усіх пасля цяжкіх аперацый, на адзіночку. На адзіночку пацыентам з іншых палат уступ забаронены. Калі, аднак, не было блізка лекараў, любілі мы заглядаць да нашага хворага сябра. Ляжаў ён нерухома на ложку, абчэплены дзесяткам розных правадоў. Правады кропля за кропляй пампавалі ў яго жылы свежую, жыццяносную кроў, даводзілі ў яго лёгкія свежае кіслароднае паветра, прывезенае сюды ў аграмадных жалезных бутлях. Спалучалі яго арганізм з электрычнымі апаратамі, кардыёграфамі, на экране якіх рэгістраваўся найдрабнейшы рух яго хворага сэрца, адводзілі з хворых грудзей непатрэбныя астаткі. У малой палаце вурчэла і бульгатала, працавалі прыборы, якія заступалі хворыя органы чалавека. Здавалася, што чалавек гэты не з'яўляецца ўжо чалавекам, а нейкай часткай прыбораў і правадоў, часткай электрычнай сеці горада Беластока, яго тэхнічных устройстваў. Чалавек, аднак, пазіраў звычайна на прысутных і пытаў звычайным чалавечым голасам:

— Ці ложак мой заняты ўжо нейкім новым?

Адказвалі мы са здзіўленнем, заўважаючы, што механічныя правады і прылады зусім не перашкаджаюць чалавеку разумець і размаўляць па-чалавечы.

Потым хутка вярталіся на свае ложкі, і сямёра мужчын з бальнічнай палаты ізноў пачынала доўгую гутарку на тэму цудаў тэхнікі ў медыцыне.

**Ул. Паўлючук**

# СТАРЫ ЧАЛАВЕК НА ВЁСЦЫ

**(Працяг са стар. 4)**

выкінутая дачкой з адноўленай хаты. Ведаю жанчыну, якая маючы ў горадзе добра зарабляючага сына, ляжыць у халоднай хаце забытая людзьмі і Богам. Ведаю жанчыну, якая гадамі ляжыць у пасцелі ў адным пакоі-кухні з мнагадзетнай і маладзетнай сям'ёй сына. Яе дачка ходзіць добра апранутая, прыносіць у тую ж вёску ўжо свайму сыну кураняты, але да маці не заглядае.

Што я магу? Што мы можам? Стары чалавек у горадзе хутчэй знойдзе і знаходзіць дзверы да людской ласкі. Розныя крыжы, камітэты хутчэй знойдуць яго. Ёсць пенсіі. А на вёсцы?

Як можна тут памагчы?

Выбралася я з гэтым пытаннем да адной установы, якая называецца: Польскі камітэт грамадскай дапамогі (Polski Komitet Pomocy Społecznej). Установа апякуецца ўсімі, хто апекі і дапамогі патрабуе, а перад усім людзьмі старымі, бо ніхто, так як яны, апекі і дапамогі не патрабуе.

У размове я пачула, што...

Што ПКПС можа памагаць кожнаму старому — адзяваць яго, карміць, наглядаць за ім, нават лячыць.

Што мала, вельмі мала старых людзей з вёскі карыстае з неабмежаваных мажлівасцей, бо....

Бо людзі на вёсцы не ведаюць куды ісці, як паступіць. Бо суседзі ці знаёмыя старога не шукаюць спосабаў памагчы яму. Бо замала на вёсцы ПКПС мае сваіх сімпатыкаў, якія б аб кожным выпадку ў сваёй вёсцы даносілі ў павятовыя рады ПКПС (якія ў асноўным змяшчаюцца пры прэзідыумах рад нарадовых).

ШТО ПКПС МОЖА ЗРАБІЦЬ ДЛЯ СТАРЫХ ЛЮДЗЕЙ НА ВЁСЦЫ?

1. Можа дасылаць пачкі з адзежай.
2. Можа даваць збожжа і іншыя прадукты.
3. Можа даваць т.зв. боны жыўнасцёвыя, на якія ў спажывецкім магазіне купляюцца прадукты.
4. Можа аплачваць па 9—11 зл. абеды якой-небудзь гаспадыні на вёсцы, якая згодзіцца адзін абед даваць сваёй старой ці хворай суседцы.

Для гэтага трэба спісаць з павятовай радай умову і ўсё далей рушыць. У гарадах абеды старыя ядуць у сталоўках, на вёсцы выйсце, як вышэй. Але выйсце ёсць. І трэба выкарыстоўваць яго, узаемна памагаць і апекавацца. У кожным павеце ёсць ПКПС, у кожнай грамадзе ёсць гурток. Хочучы, можна знайсці дарогу, каб стары чалавек на вёсцы не маліўся за смерць.

**Вера Леўчук**



## ВЯЛІКІ ЧЫТАЛЬНІЦКІ КОНКУРС

Конкурс працягваецца:
АД 1.I.1967 ДА 30.X.1967.

Узнагароды:
ГРАМАФОН (АДАПТАР)
ТРАНЗІСТАРНАЕ РАДЫЁ
РУЧНЫЯ ГАДЗІННІКІ
КАМПЛЕКТЫ ГРАМПЛАСЦІНАК
АЎТАРУЧКІ
ДАЎГАПІСЫ
ПРАДМЕТЫ ШТОДЗЁННАГА ЎЖЫВАННЯ
КАМПЛЕКТЫ КНІЖАК

### КУДЫ ПРЫСЫЛАЦЬ КУПОНЫ?

1) можна здаваць у грамадскую або павятовую бібліятэку.
2) прысылаць у Ваяводскую Бібліятэку вул. Кілінскага.
3) прысылаць у рэдакцыю «Нівы» з дапіскам «Вялікі чытальніцкі конкурс».

### ІНФАРМАЦЫЯ I.

Некаторыя чытачы ўжо ўзяліся за чытанне на конкурс. Выпаўненыя купоны ўжо прыходзяць на адрас «Нівы». Чакаем далейшых. Многа! Як найбольш! Узнагароды таксама чакаюць!

### ІНФАРМАЦЫЯ II.

У 51 нумары ад 19 снежня, у якім аб'явілі мы Вялікі чытальніцкі конкурс, падалі таксама літаратуру — загалоўкі аповесцей (проза) і паэм (вершам), якія можна на конкурс чытаць. У наступных нумарах «Нівы» падамо новыя загалоўкі твораў да чытання.

## КУПОН

1. Назаві аўтара і загаловак вершаванага твора

..................................................................................

2. Назаві двух аўтараў і загалоўкі кніжак прозай

а) ..............................................................................

б) ..............................................................................

3. Напішы, ці выбраныя творы табе падабаліся і чаму ..............................................................

..................................................................................

..................................................................................

..................................................................................

..................................................................................

..................................................................................

4. Напішы, дзе ўзяў кніжкі да чытання (публічная бібліятэка, уласная ці купіў) ..............................

..................................................................................

5. Імя і прозвішча ....................................................

6. Адрас .....................................................................

7. Прафесія ................................................................

8. Колькі год ..............................................................

Запоўні купон і аддай яго бібліятэкару ў публічнай бібліятэцы або прышлі ў рэдакцыю «Нівы» да 1.10.1967 года.



 

 

# АРТЫСТКІ КАНАРЫСА

Германская разведка старалася вербаваць артыстак, якія мелі іншаземные грамадзянства і тым самым не выклікалі да сябе ніякіх падазрэнняў у супрацоўніцтве з германскімі сакрэтнымі органамі. Шэф германскай ваеннай разведкі адмірал Канарыс загадаў вербаваць на шпіёнаў у першую чаргу артыстак і кінарэжысёраў. Гэтая вярбовачная акцыя прынесла пазітыўныя рэзультаты. Першай на службу германскай шпіёнскай сеткі паступіла папулярная Ані Ондра, потым цудоўная Кармэн Мора, Ла Хана і інш.

Германскай шпіёнкай стала таксама Ольга Чэхава, якая выводзілася са старой рускай дваранскай сям'і. Шпіёнкай была таксама Ева Браўн, аднак па загаду Гітлера хутка выведзена яе з разведачнай службы. Тады засталася яна каханкай Гітлера.

Сярод той цэлай плеяды артыстак неўзабаве высунулася на першае месца Ольга Чэхава. Канцылярыя Рэйха выкарыстала ўсе свае ўплывы, каб Ольгу Чэхаву зрабіць артыстычнай славаю ў вядомай кінастудыі «УФА». У тэхнічным аддзеле гэтай кінастудыі працавала шмат работнікаў разведкі, якімі кіраваў кінарэжысёр Карміне Галоне, афіцэр разведкі, галоўны апаратар экіпы Арменіцэ. Як бачым, усе мелі прозвішчы непадобныя да немецкіх, прытым усе мелі замежныя пашпарты.

Так засакрэчана група разведчыкаўператварыла кінастудыю «УФА» ў актыўную пляцоўку германскай разведкі. Па плану экіпа атрымала заданне распрацаваць размяшчэнне вайсковых часцей і ўмацаванняў польскай арміі ў важным стратэгічным раёне Сувальскага прыазёр'я, ля прускай граніцы.

Дзякуючы лёгкадумнасці санацыйных улад экіпа германскіх ілжэкінематографаў з'ехалася ў Сувалках, каб пачаць здымкі да нібыта фільма аб польскай тэматыцы. Артысты свабодна гулялі па аколіцы, асабліва любілі бываць непадалёку мастоў, вакзалаў, аэрадромаў. Польскія афіцэры радасна ляскалі шпорамі перад абліччам прыгожых артыстак.

Ольгу Чэхаву і яе супрацоўнікаў пастаянна запрашалі на балі. Арганізавалі ім нават масавыя вайсковыя паказы на палігонах. Афіцэры кавалерыі, артылерыі і авіяцыі адзін перад другім запрашалі яе танцаваць, а яна з чароўнай усмешкаю вынізвала ад іх сакрэтныя інфармацыі. Рабіла гэта з незвычайным спрытам.

Вярнуўшыся ў Германію гэтая шпіёнская экіпа прывезла з сабою багаты фатаграфічны матэрыял адносна польскіх вайсковых аб'ектаў на прускім пагранічча. Толькі пасля іх выезду служба контрразведкі пры польскім корпусе напала на след шпіёнскай дзейнасці Чэхавай і яе памочнікаў. Аднак рапарты контрразведкі Міністэрства вайсковых спраў прызнала неверагоднымі і забараніла весці далейшае следства.

Пасля першай паездкі экіпа «УФА» яшчэ два разы прыязджала ў Польшчу. Радасна віталі яе афіцыяльныя прадстаўнікі ўлад і дазвалялася ёй фатаграфаваць у стратэгічна важным раёне паміж рэкамі Нарваю і Бугам, у раёнах Астралэнкі і Вільні, дзе знаходзіліся найбольшыя канцэнтрацыі вайсковых часцей. Экіпа фатаграфавала таксама карпацкія цясніны на польска-славацкім пагранічча.

Апекаваўся экіпай асабіста сам міністр вайсковых спраў генерал Каспжыцкі, які з празмернай ветлівасцю дазваляў нават фатаграфаваць ваенную тэхніку. Міністр не паверыў рапартам контрразведкі, у якіх гаварылася, што тэхнічным кіраўніком гэтай экіпы ёсць лётчык Альфрэд Грэвен з вядомай эскадрыллі лётчыкаў вышэйшага класа, якой некалі камандаваў барон фон Рыхтгефен.

Экіпа «УФА» здабыла Гітлеру бясцэнныя матэрыялы, якія шмат дапамаглі ў апрацоўцы планаў захопу Польшчы.

(а-ся)



## БЕЛАРУСКАЯ ССР У ФОТААБ'ЕКТЫВЕ



Сіласаўборачныя камбайны Гомельскага завода сельскагаспадарчага машынабудавання.

## НАДЗВЫЧАЙНАЯ ПАМЯЦЬ

Французскі доктар А. Гіліён у сваёй кнізе «Хваробы памяці» звяртае ўвагу чытачоў на вельмі рэдкую, можна сказаць, унікальную здольнасць чалавека. Выключны выпадак яму давялося назіраць у адным 50-гадовым халасцяку. Апошні яшчэ ў самай ранняй маладосці вызначаўся надзвычай выдатнай памяццю, не праяўляючы пры гэтым ніякіх разумовых здольнасцей у іншым кірунку.

Атрымаўшы адукацыю, гэты чалавек, пусціўся ў падарожжа і аб'ездзіў Швейцарыю, Італію, Іспанію, Вялікабрытанію, Бельгію, Галандыю, Алжыр і Туніс. Аднак не для таго, каб любавацца цудамі прыроды і мастацтвам гэтых краін або вывучаць асаблівасці побыту, сацыяльнае становішча іх насельніцтва. Не. Ён падарожнічаў толькі з адною мэтаю — самому пераканацца ў дакладнасці чыгуначных экскурсійных даведнікаў і папоўніць сваю памяць новымі матэрыяламі. У яго ніколі не было іншага жадання ў жыцці, апрача як запамінаць назвы чыгуначных станцый. І так з дня ў дзень, з году ў год з упартасцю фанатыка ён цалкам прысвячаў сябе гэтаму вар'яцкаму занятку.

Прафесар Пітрас і аўтар названай вышэй кнігі аднойчы паспрабавалі «праэкзаменаваць» гэтага ўнікума. Экзамен прайшоў з неверагодным поспехам. У Еўропе не знайшлося ніводнай чыгуначнай станцыі, назву якой не ведаў бы стары халасцяк. Яму называлі якую-небудзь магістраль, і ён з непахіснаю ўпэўненасцю, у строгай паслядоўнасці пералічваў адну станцыю за другой.




У гэтую ж самую нядзелю вечарам паручнік Вольскі рассеяна слухаў рапарт маёра — кіраўніка «археалагічных работ».

— Другая аператыўная група, што дзейнічала ў Панятове, — дакладваў маёр, — зацікавілася афіцэрамі запасу, што выходзяць па аднаму з казармаў. З 8.10 да 12.40 устаноўлен выхад адзінаццаці афіцэраў запасу ў розныя прамежкі часу. Назіраемыя ні з кім не сустракаліся. Некаторыя з іх куплялі папяросы і запалкі. Апошні з афіцэраў вярнуўся ў 12.40. Гэта, бадай, усё.

— Можа быць, хто-небудзь з іх дамаўляўся з работнікамі кіёска? — спытаў Вольскі.

— Не, ніякіх размоў не было, — адказаў маёр. — Кіёск быў пад нашым наглядам.

«Супадае», — падумаў Вольскі. У поўдзень выкарыстаўшы нядбайнасць дзяжурнага афіцэра, ён паглядзеў у кнігу рэгістрацыі водпускаў.

— А як там шчэцінскія групы? — пацікавіўся Вольскі.

Маёр цягнуў з адказам.

— Нічога асаблівага, — пачаў павольна маёр. — Сем чалавек пакінулі спартыўную залу, як толькі пачаўся матч. Траіх мы выпусцілі з-пад увагі, — заклапочана дакладваў ён.

— Што-о? — закрычаў Вольскі, зрываючыся з месца.

— Наша аперацыя з самага пачатку была дрэнна прадумана, — пачаў растлумачваць маёр, рыхтуючыся атрымаць вымову. — Мы не прадбачылі, што натоўп, напіраючы на агароджу, ускладніць работу аператыўнай групы. Гледачы загарадзілі ўваходы. Гэтыя трое апынуліся ў натоўпе і зніклі.

— А астатнія чацвёра? — нерваваўся Вольскі. Маёр адчуваў набліжэнне буры.

— Няхай гавораць тыя, якія далі сябе ашукаць, — сказаў маёр, пазіраючы на вінаватых няўдачы.

— Гэта не зусім так, — адважыўся пачаць даклад адзін з іх. — Ён ад мяне схаваўся, але ўсё-такі не ашукаў. У адпаведнасці з загадам я назіраў за двума афіцэрамі, якія выйшлі першымі са спортзалы. Я сачыў за імі цэлую гадзіну. У іх паводзінах не заўважыў нічога падазронага. Яны зайшлі ў гарнізонны клуб, дзе былі каля дзвюх гадзін. Потым яны вярнуліся ў спортзалу.

— А што яны рабілі ў клубе? — хутка спытаў Вольскі.

Разведчык пацiснуў плячыма.

— Гэтага я не ведаю. У мяне не было пропуска, і мяне туды не пусцілі.

— Добра. Праверым гэта, — сказаў Вольскі. — Хто наступны?

— У мяне было нямнога работы, — пачаў другі разведчык. — Назіраемы выйшаў толькі на пятнаццаць мінут. Потым ён вярнуўся ў спортзалу з нейкім Камарыцкім, што жыве ў Алеях Незалежнасці.

— Пра што яны гаварылі?

— Пра нейкае пісьмо.

— Так, — вымавіў Вольскі. — А што ў вас? — спытаў ён трэцяга разведчыка, які яўна пазбягаў позірку палкоўніка.

— Уцёк ад мяне, — сарамліва адказаў разведчык.

— Як гэта «ўцёк»? — абурыўся Вольскі.

— Проста змыўся з... трамвая, — няўпэўнена адказаў разведчык.

— Раскажыце падрабязна, як гэта здарылася? — кінуў усхваляваны Вольскі.

— Я стаяў на плошчы ля ўваходу, — пачаў разведчык. — «Мой» запаснік выйшаў са спартзалы і накіраваўся да выхаду. Я зараз жа накіраваўся да прыпынку трамвая. Там вырашыў яго пачакаць, мяркуючы, што ён паедзе ў горад трамваем. Так яно і здарылася. Я ўслед за ім сеў у трамвай і пачаў назіранне. Між чацвёртым і пятым прыпынкамі ён выскачыў з трамвая, сеў у таксі і паехаў у невядомым кірунку.

— І вы не маглі выскачыць за ім? — з папрокам сказаў Вольскі.

— Я не мог, — адказаў разведчык. — Ён жа адразу б заўважыў, што за ім сочаць. Тым больш, што ён увесь час падазрона азіраўся. Напэўна, адчуваў, што хтосьці наступае яму на пяткі. Я запісаў нумар таксі, магчыма, гэта спатрэбіцца.

— Вельмі цікава, — сказаў Вольскі. — Як ён выглядае? Апішыце падрабязна!

— Нізенькі, худы, плячысты падпаручнік.

— Асобныя прыкметы?

— Даволі вялікія, адвіслыя вушы. На правай кішэні плашча гузік прымацаван запалкай. На правым рукаве плашча кідалася ў вочы старая пляма ад тлушчу. Гэта ўсё.

— Добра! — зазначыў Вольскі. — І што было далей?

— Я вярнуўся на матч і чакаў яго. Праз гадзіну ён паявіўся. У спортзале ні з кім не сустракаўся. Потым, згодна з указаннямі, я перастаў сачыць за ім.

— Вы ўстанавілі яго прозвішча? — запытаў Вольскі.

— На жаль, было мала часу, — адказаў разведчык.

— Магчыма, вы заўважылі яшчэ якія-небудзь падрабязнасці ў паводзінах гэтага тыпа? — запытаў Вольскі.

— Наўрад... Хаця — так. Але ці мае гэта значэнне? — працягваў разведчык. — Перад выездам з Панятова я стаў за ім у чаргу ля білетнай касы. Назіраў за ім. Ён заплаціў за білет стозлотавай купюрай.



 

# ТРЫБУНА чытачоў

## УВОДЗІЎ У БЛУД

У канцы снежня мінулага года аграном з прэзідыум ГРН у Трасцянцы на вясковым сходзе ў Белках запалохаў гаспадароў. Ён заявіў, што ёсць пастанова Міністэрства, што кожны гаспадар мусіць прадаць свой авёс, а пасля купіць кваліфікаванае зерне ў Нараўскім ГС-е. Усе былі абураны гэтай пастановай. Зашумелі сяляне на сходзе. У самым разгары абмяркоўкі з'явіўся солтыс Белак і ўсіх супакоіў. Ён акуратна выясніў карысную для сялян пастанову адносна абмену аўса на кваліфікаванае насенне.

Аграном відавочна не дарос да таго, каб тлумачыць пастановы Міністэрства. Ён толькі можа ўвесці сялян у блуд.

Ярош
Белкі




«Дарагое Сэрцайка. Многа я чытаю Тваіх «Сардэчных тайнаў» і вось пастанавіла напісаць да Цябе.

Мне 17 год. Скончыла я пачатковую школу і год сельгаспадрыхтоўкі. Надумалася пайсці вучыцца ў тэхнікум будаўлянае. Таму прашу, Сэрцайка, падай мне адрас школы, а таксама паінфармуй мяне, калі складаць у гэтую школу прашэнні і з якіх прадметаў здаваць уступныя экзамены. За параду буду вельмі ўдзячна», — Тамара з Дубровы.

Тамара! Мы звярнуліся ў тэхнікум будаўляна-драговае (бо так цяпер яно называецца), дзе нас паінфармавалі, што школа яшчэ не ведае аб тэрміне, калі можна будзе складаць прашэнні. Трэба даведацца бліжэй вясны. Як да гэтага часу экзамены былі заўсёды з арыфметыкі і польскай мовы (вусны і пісьмовы), аднак у гэтым годзе не вядома яшчэ, ці будзе так, як у мінулых гадах, ці мо будуць якія-небудзь змены. Школа месціцца пры вул. Сланімскай № 47. Раю пасля нейкага часу даведацца аб гэтых справах.

Сэрцайка

«Вучуся ў 8-мым класе пачатковай школы. Хацела б даведацца, ці ў Беластоку ёсць парыкмахерская школа. Калі так, падай мне адрас і паінфармуй, калі трэба складаць прашэнні. Буду табе вельмі ўдзячная», — піша Галіна з Беласточчыны.

Адказваю: Мы звярнуліся ў тваёй справе ў гэтую школу пры вул. Навоткі 1, дзе нас паінфармавалі, што ў гэтым годзе праўдападобна не будзе набору на аддзел парыкмахерскі. Таму прашэнняў не прымаюць. **Сэрцайка**

## НАСТАЎНІЦА НАДЗЯ САВІЦКАЯ

Няма хіба такога чалавека, які б не захаваў у сваёй памяці вобраз настаўніка, старога і добрага, патрабавальнага і чуллівага, таго, хто не толькі вучыў чытаць і пісаць, але адкрываў свет агромны, цудоўны. І вучыў не толькі пасіўна любавацца чароўнасцю гэтага света, яго аграмаднымі багаццямі, але і клікаў памнажаць гэтыя багацці, быць адкрывацелем новага, нязведанага. Вось такою ўспамінаецца мне настаўніца з Трасцянкі, Надзя Савіцкая.

У трасцяніцкай школе правучыла яна 28 год. Ёй ужо 62 гады. Ужо яна на пенсіі. Аднак і далей не расстаецца са школаю. Далей некалькі гадзін у тыдзень навучае дзяцей. Далей будзіць любоў да роднай мовы, да роднага краю, вучыць жыць. **М. Л.**

Гайнаўскі павет

## ДЗІКАСЦЬ

У 1965 г. на Бельшчыне пабудавана 15 пачакальняў на аўтобусных прыпынках ПКС. Было дзе схавацца ў непагоду ад дажджу, снегу ці ветру. Але гэтымі пачакальнямі падарожнікі доўга не цешыліся. Амаль кожная пачакальня «здэмалёваная». Павыбіваны шыбы ў вокнах і дзвярах, панішчаны і памазаны сцены. Найбольш знішчаныя пачакальні на прыпынках Храбалы і Шчыты. Там нават нейкая «дзіч» павыймала з рамкі вокны і дзверы. Схавацца ад непагадзі зусім у іх стала немагчыма, таму, што моцны там скразняк. Як непрыемна, што ёсць у нас столькі дзікасці, безкультурнасці, дурасці, нялюдскасці. Хто будзе рамантаваць знішчанае? Да гэтага часу няма каму. І не выяснена, хто павінен, і за якія грошы.

**Павел Зінкевіч**
Бельск

## ШЫМКІ

Вёска Шымкі налічвае звыш 120 гаспадароў. Розніца паміж мястэчкам — паблізкім Міхаловам — толькі ў тым, што ў Шымках адна вуліца. А ёсць ужо тут тры крамы, пункт аховы здароўя, васьмікласная школа, пошта, ГРН, пункт скупу жывёлы. Сельскагаспадарчы гурток найбагацейшы ў аколіцы. Сяляне зямлю апрацоўваюць машынамі. Ужо пару год, як паліквідавалі газоўкі, карыстаюцца электрычным святлом. Моладзі даволі многа, і яна аб'яднаная ў гуртку ЗМВ, які добра дзейнічае. Мужчыны арганізавалі пажарную каманду. Аўтобус ПКС спалучае Шымкі з далёкім Беластокам. Калі хочаш, і куды хочаш, можна даехаць. Шымкаўскія людзі даволі дружныя. Грамадскім чынам улажылі яны брук, упарадкавалі вуліцу. Цяпер не адзін селянін з суседняй вёскі зайздросціць Шымкам.

Слядамі нашых публікацый

## ЧАМУ НЕ ДА ПАЧАПКА?

Пад такім загалоўкам у № 1(566) «Нівы» была апублікавана інфармацыя адносна таго, што гаспадары некаторых вёсак мінаюць суседні Пачапок і едуць на заробкі пры рубцы лесу значна далей — у Сакалду, толькі таму, што там больш спрыяльныя ўмовы да працы. У сувязі з гэтай публікацыяй надлясніцтва Крынкі прыслала наступнае выясненне:

N-ctwo komunikuje, że stopnie trudności (ani strefy) dla wszystkich pozycji cięć w r.g. 66/67 w N-ctwie Krynki zostały komisyjnie z udziałem Czynnika społeczno-politycznego w terenie zbadane, zakwalifikowane i zatwierdzone wg wymagań podanych w Układzie Zbiorowym Pracy dla robotników zatrudnionych w przedsiębiorstwach lasów państwowych 3. XII. 1965 r. jak załącznik Nr 1 str. 50 — 55. Omawiane stopnie trudności zostały przyjęte i zatwierdzone przez O.Z.L.P. B-stok jako zgodne z rzeczywistością. Zatem nie ma podstaw do podejrzenia względnie zarzucenia zarzutu N-ctwu jokoby stopnie trudności były celowo obniżone ze szkodą dla robotników. Następnie jeśli chodzi o wyrób i nabywanie drobnicy w N-ctwie Krynki to też odbywa się wg obowiązujących norm i przepisów w tym zakresie i nie sposób jest inaczej postępować do czasu zmian tych przepisów.

W tym zakresie obowiązuje instrukcja w spr. ewidencji drewna z roku 1962, norma w spr. wyrobu drobnicy BN-63/9224-05 z 1. X. 1963 r. Norma dot. sortowania, pomiaru drewna z 1. VI. 1955 r. Zn. PN-54/D-02002, a następnie Biuletyn Nr 3, poz. 34, 35 i Nr 10 poz. 122 z 1958 r. w sprawie nabywania drobnicy opałowej w p. g. 1. przez miejscową ludność.

Jeśli jest inaczej w N-ctwie Supraśl to być może, że N-ctwo posiada zgodę na odstępstwa od wyżej podanych przepisów od strony Zarządu Lasow, jeśli zaś nie ma, to przyjmuje na siebie przez takie postępowanie pełne ryzyko odpowiedzialności, którego to niestety N-ctwo Krynki nie może wziąć na siebie i chyba słusznie. Wobec powyższego stwierdza się, że zarzuty i motywy podane w artykule są zdaniem N-ctwa nieuzasadnione — które z kolei oddala się z braku jakichkolwiek podstaw prawnych. Następnie N-ctwo dopatruje się w artykule innych przyczyn odejścia robotników z Ostrowia Północnego i Południowego aniżeli przedstawiono w artykule i o tychże przyczynach napewno może powiedzieć samo N-ctwo Supraśl do którego kierujemy chętnych łącznie z autorem artykułu, gdzie bliżej poznają sedno sprawy.

Nadleśniczy
(—) inż. Stanisław Skałuba

## ДЗВЕ ЭКСКУРСІІ

Пачатковая школа ў Рыбалах, Бельскага павета, арганізавала нядаўна дзве экскурсіі: у Бельск Падляшскі і ў Беласток. Удзельнікі іх наведалі прамысловыя прадпрыемствы (Бельскую рашарню і фабрыку плюшу ім. Кона ў Беластоку), пазнаёміліся з працэсам вытворчасці, арганізацыяй працы і правялі надзвычай цікавыя сустрэчы з прадстаўнікамі дырэкцыі. Здабыты такім чынам новы матэрыял вучні супольна з настаўнікамі дакладна распрацавалі на ўроках грамадзянскага выхавання, на выхаваўчых гадзінах і на іншых занятках.

У час экскурсіі ў Беласток удзельнікі яе наведалі музей, паглядзелі выстаўку польскай ваеннай зброі на працягу тысячагоддзя, выстаўку прац удзельнікаў другога белавежскага пленера, агульнапольскую выстаўку дзіцячых малюнкаў і ўвечары пабывалі ў тэатры імя А. Вянгеркі, дзе былі на камедыі Фрэдры «Гвалту, што робіцца». Перад спектаклем акцёр беластоцкага тэатра абвёў вучняў па тэатры, пазнаёміў з тэхнічнымі прыладамі, са сцэнаю і майстэрнямі, расказаў аб працы акцёра ў тэатры. Вучні з блізка прыглядаліся рэпетыцыі новай п'есы пад загалоўкам «Тры стрэлы». У абедзвюх гэтых экскурсіях узяло ўдзел 64 асобы. Усе вынеслі многа прыемных уражанняў. (ф)

Рыбалы

## АБДЗЁРСТВА БРАКАРОБАЎ

Будаўляная спулдзельня ў Бельску (Rzemieślnicza Spółdzielnia Zaopatrzenia i Zbytu Rzemiosł Różnych) у лістападзе 1965 года распачала рамонт будынку-сядзібы ГРН у Пасынках. Дакументацыя праекта-каштарыса складала суму больш 90 тыс. зл., а поўны кошт рамонту разам з непрадбачанымі работамі перавысіў 110 тыс. зл. Як на рамонт такога маленькага памяшкання, як ГРН, — сума велізарная. За яе можна было б пабудаваць новы будынак. А калі ўжо за гэтыя грошы рамонт зробіць, дык усё тут павінна было б блішчаць. Але, на жаль, не толькі не блішчыць, але і нават не зроблена акуратна. Шчыліны ў падлозе больш як на сантыметр. Пільсня на сценах няшчыльна прыбіта, а на столі набірае яна розных колераў. Адстае фарба. Проста сорамна за ўстанову, якая такіх мае бракаробаў і такі дрэнны, бо зусім сыры, амаль мокры, дае матэрыял. З. П.

Пасынкі

## РУБКА ЛЕСУ

У раёне Масева ў надлясніцтве Броўск групуецца зараз вялікая рубка лесу. Працуюць тут рабочыя 10-ма механічнымі піламі. У лесе чутны гоман. Адначасова вядзецца ачыстка ад галля і хворасту спілаваных дрэў, а таксама звозіцца іх да складніцы. Сталым рабочым надлясніцтва ў абедзенных гадзінах прывозяць гарачы суп са сталовай у Нараўцы. Лясных рабочых часта наведваюць спецыфічныя госці — зубры. УКС

Масева

## ПРЫКЛАДНЫ ПРАДАЎШЧЫК

Андрэй Пляскевіч з'яўляецца прадаўшчыком у нараўскай краме ўжо 14 год. Нарва і навакольныя вёскі задаволены з яго работы. Хоць цяжка прадаваць Андрэю Пляскевічу, бо крама ў адным месцы, а склад — у другім, але ён стараецца, каб усіх абслужыць ветліва і хутка. Асабліва ў дзень торговы — у аўторак цяжка яму прыходзіцца.

**Ярош**

---

— Што ж у гэтым дзіўнага? — запытаў Вольскі.

— Гэта было не так проста, — з націскам сказаў разведчык. — Як толькі ён падаў касіру банкнот, ён расхінуў плашч, палез у кішэню мундзіра і тут жа запатрабаваў вярнуць стозлотавы банкнот, гаворачы, што заплоціць дробнымі знакамі. Пры гэтым ён вельмі нерваваўся.

— І што далей? — абыякава спытаў Вольскі.

— Касір вярнуў яму стозлотавы банкнот. Афіцэр схаваў яго ў кішэню мундзіра. Потым пачаў шукаць па кішэнях плашча і мундзіра. Не знайшоўшы дробных, афіцэр зноў падаў касіру стозлотавы банкнот.

Вольскі паціснуў плячыма і абвёў прысутных дапытлівым позіркам.

— Што вы аб гэтым думаеце?

Усе маўчалі.

— Па-мойму, — сказаў, пачакаўшы, адзін з прысутных, — у гэтым няма нічога незвычайнага. Проста яму спачатку здалося, што ў яго ёсць дробныя грошы.

— Так, але чаму ён нерваваўся? — запытаў разведчык, які вёў назіранне.

— Гэта магло быць звычайнае хваляванне, якое людзі адчуваюць часта перад дарогай, — зазначыў Вольскі і павярнуўся ў бок разведчыка.

— Зусім правільна вы ацэньваеце такія падрабязнасці — яны істотныя і важныя. Запішам усе вашы заўвагі. А тым часам мы павінны ўладзіць некалькі спраў не менш сур'ёзных, — працягваў ён. — Па-першае, вы пакажаце мне гэтага чалавека. Дэталі, якія датычаць месца і спосабу ўстанаўлення асобы, мы абмяркуем пазней. Затым двое з вас адправяцца ў афіцэрскі гарнізонны клуб і пастараюцца ўстанавіць, што рабілі запаснікі на працягу двухгадзіннага знаходжання там. А вам, — звярнуўся ён да маёра, — неабходна дапытаць вадзіцеля таксі і па меры магчымасці ўстанавіць, куды накіраваўся падазроны і з кім ён знаходзіўся. Пакуль усё. Ёсць пытанні?

— Я думаю, — сказаў адзін з разведчыкаў, — што мы павінны як мага хутчэй устанавіць кантакт з афіцэрам унутранай вайсковай службы гарнізона. Могуць узнікнуць непаразуменні і непрадбачаныя ўскладненні.

Вольскі дабрадушна рассмяяўся.

— Лічу, што пакуль мы самі справімся. Нас жа шасцёра.

— Здаецца, так, — без асаблівага энтузіязму пацвердзіў разведчык, — але трэба памятаць, што запаснікі знаходзяцца на тэрыторыі вайсковай часці, куды мы не маем права заходзіць. Гэта можа перашкодзіць нам у рабоце.

— Няма чаго баяцца, — катэгарычна заявіў Вольскі. Гэта дыскусія пачала злаваць яго. — Устанаўленне кантакту з афіцэрам унутранай вайсковай службы было б заўчасным. Мы павінны дзейнічаць асцярожна.

**(Працяг будзе)**

# КІНО

на 31.I. — 5.II.1967 г.

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**
„Przemytnik z Piemontu" (franc.), 31.I. — 1.II. „Winnetou" (NRF), I s. 2—3.II. „Winnetou" (NRF), II s. 4 — 5. II.

**Кляшчэлі**
„Nikt śmiać się nie będzie" (czeski), 31. I — 1. II „Tytoń" (bułg.), 2—3. II. „Dzwonić Nortside 777" (USA), 4 — 5. II.

**Дубіны**
„Przybycie tytanów" (włoski), „Panie inspektorze" (jugosł.), 4 — 5. II.

**Нарва**
„Najdroższa" (radz.), „Operacja Y" (radz.), 1 — 5. II.

**Нараўка**
„Urocza gospodyni" (USA), „Bandyci z Orgosolo" (włoski), 1 — 5. II.

**Чыжы**
„Pożegnania" (polski), „Dzielnica szczęścia" (rumuński), 1 — 5. II.

**Дубічы Царкоўныя**
„Obok prawdy" (polski), „Podróż nie z tej ziemi" (jugosł.), 1 — 5. II.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**
„Dom z facjatą" (radziecki), „Grzeszny anioł" (radz.), 1—5. II.

**Орля**
„Wierność" (radz.), „Pierwszy dzień mego syna" (czeski), 1—5. II.

**Райск**
„Pan Marszałek i ja" (NRF), „Rodzaj miłości" (angl.), 1—5. II.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**
„Gorzkie dno rzeki" (jugosł.), 2 — 3. II. „Piekło i niebo" (polski), 4 — 5. II.

**Міхалова**
„Biała pani" (czeski), 31.I. — 1. II. „Wyrok" (polski), 2 — 3. II. „Śmierć Belli" (franc.), 4—5. II.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**
„Bajka o mrozie czarodzieju" (radz.), 31.I. — 1.II. „Winnetou" (NRF), I s. 2—3.II. „Winnetou" (NRF), II s. 4 — 5. II.

**Мілейчыцы**
„Długość pocałunku 90" (czeski), 31.I. — 1.II. „Mój stary" (polski), 2 — 4. II. „Trema" (USA), 4 — 5. II.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**
„Odraza" (węgierski), 31. I — 1. II. „Między linami ringu" (USA), 2 — 3. II. „Ubranie prawie nowe" (polski). 4 — 5. II.

**Шудзялава**
„Skrawek ziemi ojczystej" (radz.), „Troje i las" (polski), 1 — 5. II.

**Сідра**
„Zwyczajny faszyzm" (radz.), 31. I — 1. II. „Sprawa Barnaby Kosa" (czeski), 2 — 3. II. „Kochankowie z Marony" (polski), 4 — 5. II.

**Сухаволя**
„Strzelby Apaczów" (USA), „Ostatni świadek" (NRF), 1. — 5. II.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Новы Двор**
„Niedziela sprawiedliwości" (polski), „Między nami złodziejami" (czeski), 4 — 5. II.

**Ніва**

**Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства.**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 1-10-33, centrala 1-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14.40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP ;Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

Nakład 6.714 Bltk. N-1

# НОВЫМ ★ ★ ХОДАМ

Аднойчы, увайшоўшы ў лантобус пэкаэс убачыла я Пана Тодара, вядомага трэпаўскага інтэлігента. Сядзеў выгодна на пярэднім месцы. Калі лантобус набраў разгону, гляджу і вачам сваім не веру: няўжо ж яго так хутка разгуйдала? А мо' Пан Тодар ачадзеў? Лантобус разагрэты, бы халадзільнік. Але Пана Тодара, відаць, сапраўды ўзяло. Выняў поўную бутэльку з манапалёвай наклейкай і, хістаючыся як асінка, пачаў хадзіць па цэлым лантобусе, тыцкаючы кожнаму пад нос гэту наклейку. А то што, думаю я сабе, за шкляны асветнік. Праходзячы побач мне шапнуў:

— Адэкалончык!

А з рота дало такім пахам, як з узорнай хлеўні. Аж мне на шыбу нос закрунуўся. Урэшце Пан Тодар знайшоў сябра. І яны пайшлі на задняе сядзенне «адэкалон» нюхаць.

— Бачыце, што чаўпецца? — таўканула мяне ў бок нейкая старэнькая бабуля, што сядзела побач. — Які дае прыклад!

— А што такое? — адазвалася я, быццам нічога не ведаючы.

— А што вы не бачылі чаго ён пацягнуў таго ў зад лантобуса?

— А хто такі?

— А той інтэлігент з Трэпаўкі. Ой, колькі на свеце гора цераз гэтую праклятую гарэлку робіцца. А маладыя людзі сёння зусім не ўмеюць шанаваць дабраты жыцця...

— Але ж не ўсе, бабусю...

— Трэпаўка! — крыкнуў кандуктар. — Хто высядае?

І ў нас з бабусяю парвалася гутарка. Лантобус спыніўся на прыпынку і я ледзь паспела з кошыкамі да дзвярэй. За мною выкаціўся з лантобуса Пан Тодар. Зайшоўшы ў хату наш Пан Тодар паступіў як вясковы неабчёсаны Хведар. В'етнам зрабіў у хаце. Паразбіваў усё, што яму пад руку папала. Павыганяў з хаты дзяцей і жонку, якой прысягаў вечнае сяброўства. І, ўрэшце, змардаваны заснуў цяжка.

На другі дзень Пан Тодар, праціраючы вочы, углядаўся на панішчаныя рэчы і не мог дадумацца, што тэта магло здарыцца. Даведаўся аб усім ад суседаў. Яны яму і сказалі, што як ён заснуў, то яго жонка пазбірала, што яшчэ ацалела і выбралася ад яго.

Пан Тодар заламаў рукі і ўпаў на калені. І пайшоў да жонкі. Але ўжо новым ходам. Паверце мне, цераз цэлую Трэпаўку ішоў Пан Тодар да жонкі на каленах. Каяўся перад ёю і перад дзяцьмі. І праз слёзы прасіў прабачэння.

А жонка, вядома, усё даравала.

Каб гэта яшчэ ўсе п'яніцы такія былі, то і жыццё пайшло б новым ходам. Але вы самі ведаеце, мае даражэнькі, што не кожнага чалавека жыццё розуму вучыць.

**Цёта Мальвіна**

# НІЎКА

### АПОШНЯЕ МЕСЦА

*— Можна білет на сёння?*

*— Прададзена ўсё да апошняга месца.*

*— Тады дайце гэта апошняе.*

### ЦУД, ДОКТАР

*— Скажыце, доктар, рука зажыве?*

*— Безумоўна.*

*— А іграць на піяніна я буду?*

*— Чаму б не.*

*— Гэта цуд, доктар, бо раней я не ўмеў!*

### ПРЫЦЯГНЕННЕ

*У клубе лекцыя пра закон сусветнага прыцягнення. Дзякуючы яму, кажа лектар, мы трымаемся на зямлі.*

*З задніх радоў раздаецца голас:*

*— Пан лектар, а як трымаліся тады, калі не было закону?*

**Песні па заяўках**

Па просьбе Яўгенія Вакулы з Меляшкоў, Беластоцкага павета, змяшчаем песню п. з.

**МОРЗЯНКА**

Слова М. Пляцковского — Музыка М. Фрадкина




Поет морзянка за стеной веселым дискантом,
Кругом снега, хоть сотни верст исколеси.
Четвертый день пурга качается над Диксоном,
Но только ты об этом лучше песню расспроси. (2 раза)

Палатки звездами мохнатыми усеяны —
Их дальний свет в своем ты сердце не гаси.
Я тоже мог бы рассказать тебе о Севере,
Но только ты об этом лучше песню расспроси. (2 раза)

Листок зеленый для меня возьми у тополя,
В конверте лето доброй почте отнеси.
В морозы так нужны нам ваши письма теплые,
Но только ты об этом лучше песню расспроси. (2 раза)

Меня домчат к тебе, когда зимовка кончится,
Олени в нартах, самолеты и такси...
Поверь, мне так твои глаза увидеть хочется,
Но только ты об этом лучше песню расспроси. (2 раза)

### ЭКАНОМІЯ

*Доктар Браун паміраe. «Не траць шмат грошай на мой помнік», — гаворыць ён жонцы.*

*Праз некалькі месяцаў на яго магіле можна было ўбачыць эмаліраваную дошачку з надпісам: «Доктар Браун. Прыём з 9 да 12».*

### ЛАЗНЯ

*— Ну, як лазня, не халодная?*

*— Што вы, свінню можна адпарыць.*

*— Во, гэта якраз для мяне.*

### РАМОНТ ПА ЗАЯЎЦЫ

*— Тут цячэ кран?*

*— Не, тут усё ў парадку.*

*— Дзіўна. А гэта кватэра Кунца?*

*— Кунц шэсць месяцаў як пераехаў.*

*— Во людзі! Спачатку выклікаюць слесара, а потым праязджаюць.*

### АПОШНЯЕ ЖАДАННЕ

*— Пан адвакат, дапішыце яшчэ ў тэстаменце, каб на маім пахаванні граў аркестр.*

*— Гэта можна. А якую музыку вы хацелі б пачуць?*



Выпадак на паляванні

**ПЕВЕНЬ — МАЙСТАР**

Здарылася гэта тады, калі яшчэ гусак плаваць не ўмеў. Купіў ён човен. Дазнаўся пра гэта певень. Прыбег да гусака:

— Давай я цябе плаваць навучу.

Спусцілі човен у лужыну, сеў гусак, а певень з берагу кіруе:

— Хвост улева, грабі правым крылом, хвост управа, грабі левым крылом.

Корпаўся гусак ля краю лужыны, пакуль вады ў човен не наплюхаў. Тады певень кажа:

— Човен твой цячэ, гусак, цягні яго сюды.

Выцягнуў гусак човен, а певень пачаў дзюбай дзірку шукаць.

— Пэўна, вось тут.

Раздзёбаў певень смалу пасярод чаўна і пакулле павыцягваў.

— Вось яна, дзірка, і ёсць. Нясі, гусак, гліну ды паболей ячменю.

Гусак прынёс.

З'еў певень ячмень, а глінаю дзірку замазаў.

— Цяпер плавай хоць сто гадоў.

Пайшоў певень, а гусак зноў човен у лужыну спусціў. Гліна размокла, і човен на дно сеў. Ледзьве выцягнуў яго гусак. Назаўтра певень зноў прыходзіць.

— Бач, гліна не вытрымала! Трэба дзірку саломаю заткнуць. Нясі саломы, ды паболей ячменю.

Так певень рамантаваў човен доўга. Нарэшце, гусак узлаваўся, прагнаў пеўня, а сам без чоўна плавае.

**Я. Казлоўская**

Скарбонка сына хабарніка

**ПРА ВОЎКА ПАМОЎКА...**

Пра воўка памоўка, а ён і тут.
А ён і тут — ну проста цуд!
З'явіўся у тую ж мінуту якраз.
«Дзень добры!» — кажа,
і мы — у адказ.
Стаіць, усміхаецца. Нібы не шэры.
Не вые па-воўчы, зубы не шчэрыць.
Такія ж, як нашыя, вушы і вочы.
Вонкавы выгляд далёка не воўчы.
Ай ды воўча! Ай ды ён!
Ды ён жа двойчы хамелеон!
Там, дзе авечкі, — у шкуры авечай.
Там, дзе чалавекі, — у чалавечай.
Стаіць, усміхаецца. Ай ды ён!
Ды ён жа тройчы хамелеон!
Знае, што сябра нам нестае,
дык ён за сябра сябе выдае.
Нават хоча большага нечага —
строіць друга з сябе чалавечага.
Ай ды воўча! Ай ды чмут!..
Пра воўка памоўка, а ён і тут.
Стаіць, усміхаецца. Ён ці не ён?
Выгляд не воўчы — не выганіш вон.
Ды раптам што-небудзь такое — ураз
завые і возьме за горла вас.

**Анатоль Вярцінскі**

# КУРЁЗЫ

### ПАПЯРЭДЖАННЕ

*Клуб «Схуднеем!» у Нью-Бедфордзе (ЗША), які займае памяшканне на другім паверсе, атрымаў паведамленне: «Будаўнічая інспекцыя больш не можа гарантаваць, што перакрыцці вытрымаюць вагу 75 членаў вашага клуба».*



### ГОДНАСЦЬ ПЕРАМОЖЦЫ

*У італьянскім горадзе Салерна праходзіў «фестываль барадачоў». Журы адзначыла 250 розных форм барод. Пераможцам жа стаў 74-гадовы Грыголі. «За незвычайную гушчыню і выпешчанасць» — так вызначыла журы годнасць пераможцы.*

### АЎТАМАБІЛЬ І МАРАЛЬ

*«Які ўплыў аказвае развіццё аўтамабільнай прамысловасці на мараль нашай краіны?» — спыталі арганізатары чарговага сацыялагічнага апытання ў горадзе Нью-Джэрсі (ЗША). Неўзабаве яны атрымалі першы адказ: «З развіццём аўтамабілізацыі рэзка знізілася канакрадства».*




**Калі б не было чорта, каго б тады так дружна ўсе лаялі?**